


# НАДЗЕІ І РАСЧАРАВАННІ

Жэнева, невялікі швейцарскі гарадок напаўтурысцкага тыпу... Бадай, ніколі яшчэ назва гэтага горада не прыцягвала такой пільнай увагі, без перавелічэння, усіх народаў свету, як у апошнія тыдні і дні. Многа, вельмі многа розных канферэнцый і нарад і на самых розных узроўнях бачыла Жэнева. Адны з іх давалі сур'ёзную надзею на вырашэнне складаных праблем нашага стагоддзя, некаторыя з іх заканчваліся падпісаннем канкрэтных пагадненняў і дагавораў, але, на жаль, нямала было і такіх, якія пасля працяглых і ўпартых спрэчак канчаліся нічым...

14 сакавіка ў Жэневе пачынае работу Камітэт ААН па раззбраенню, або, як яго называюць, Камітэт 18-ці. Яму даручана вырашыць праблему першараднай, сапраўды вялікай важнасці — выпрацаваць пагадненне аб усеагульным і поўным раззбраенні. У наш час, бадай, наўрад ці варта даводзіць, што шлях раззбраення — адзіны і самы правільны шлях да трывалага міру на зямлі. Гэта ісціна, якая не патрабуе доказаў.

Чалавецтва даўно разумела гэта. Як пісаў нядаўна англійскі маршал авіяцыі Слесар, «на працягу стагоддзяў людзі прабавалі пакончыць з вайной, і гісторыя засмечана стосамі пактаў, саюзаў, дабрачынных рэзалюцый усіх відаў». Так, папер сапраўды накапілася многа, нават занадта многа. Толькі за 15 год у сценах ААН столькі нагаварылі па пытанню аб раззбраенні, што пратаколамі і рэзалюцыямі, як падлічылі старанныя статыстыкі, можна пакрыць усё дно вялікага Жэнеўскага возера. Папяровы паток усё разрастаўся, але яшчэ большымі тэмпамі ішло накапленне смяротнай ядзернай зброі. Паводле падлікаў амерыканскага прафесара Луіса Сона з Гарвардскага універсітэта агульная разбуральная магутнасць усіх запасаў ядзернай зброі эквівалентна сапраўды фантастычнай лічбе — 60 мільярдам тон трынітраталуола. Інакш кажучы, на кожнага мужчыну, жанчыну і дзіця на зямлі прыпадае 20 тон выбуховых рэчываў. Зямля, як пірог, начынена смертаноснай начынкай.

Ёсць, праўда, людзі, якія без ценю занепакоенасці запэўняюць, што ў гэтым няма нічога кепскага. «Раўнавага страху», гавораць яны, з'яўляецца лепшай гарантыяй міру. Але сама гісторыя пратэстуе супраць гэтых наскрозь фальшывых аргументаў. Перад другой сусветнай вайной краіны фашысцкай восі Рым — Берлін — Токіо таксама запэўнялі, што мір будзе забяспечаны толькі тады, калі будзе дасягнута роўнасць іх узбраенняў з узбраеннямі ЗША, Англіі і Францыі. Пачалася гонка ўзбраенняў, якая прывяла не да міру, а да вайны. Прамая дарога да міру — усеагульнае і поўнае раззбраенне.

Савецкі Саюз неаднаразова ўносіў шматлікія прапановы для вырашэння гэтай надзённай праблемы сучаснасці. Але ўсе яго намаганні да апошняга часу сустракалі своеасаблівую змову з боку ЗША, Англіі і Францыі. У бясплённых спрэчках, у бясконцых лабірынтах губілі яны любыя прапановы па раззбраенню ўнесеныя нашай краінай. І ўсё ж намаганнямі Савецкага Саюза былі створаны больш спрыяльныя ўмовы для паспяховай работы Камітэта 18-ці.

Перш за ўсё, Савецкі ўрад у пасланнях М. С. Хрушчова кіраўнікам урадаў і дзяржаў — удзельнікам Камітэта па раззбраенню — прапанаваў абмеркаваць праблему раззбраення на самым высокім узроўні. Хто, як не кіраўнікі дзяржаў і ўрадаў, надзеленыя самымі высокімі паўнамоцтвамі, маглі б сказаць самае пераканаўчае слова ў пытанні аб раззбраенні? Жыццё, практыка паказалі, што тут патрэбен новы падыход, што справу раззбраення павінны ўзяць у свае рукі іменна кіраўнікі дзяржаў і ўрадаў.

Па-другое, у Камітэта 18-ці дзяржаў на гэты раз ёсць даволі чоткая база для перагавораў — узгодненыя прынцыпы ўсеагульнага і поўнага раззбраення, ухваленыя Генеральнай Асамблеяй ААН. У склад камітэта ўвайшлі прадстаўнікі ўсіх трох асноўных груп дзяржаў: сацыялістычных, нейтралісцкіх і краін, якія ўваходзяць у заходнія ваенныя блокі.

Так, яшчэ месяц назад усё сведчыла аб тым, што работа Камітэта 18-ці можа быць больш плённай, чым яго няўдалых папярэднікаў. Але цяпер, у самы пярэдадзень адкрыцця нарады ў Жэневе, становішча ў значнай ступені змянілася. Рэакцыйная амерыканская газета «Нью-Йорк таймс» прама піша, што «перспектывы поспеху жэнеўскіх перагавораў неспрыяльныя». Газета, вядома, замоўчвае, хто зрабіў гэтыя перспектывы неспрыяльнымі, хто вінаваты ў тым, што міністры замежных спраў збяруцца ў Жэневе ў абстаноўцы няпэўнасці і няяснасці? Сарамлівае ўмоўчванне «Нью-Йорк таймс» можна зразумець — у адваротным выпадку ёй давялося б паказаць на ўрад ЗША.

Так, іменна ўрад ЗША пастараўся зрабіць усё, каб атруціць атмасферу перад сустрэчай у Жэневе. Двойчы Савецкі ўрад прапаноўваў ураду ЗША сабрацца ў Жэневе на самым высокім узроўні, і абодва разы з Вашынгтона чулася катэгарычнае «не». Індыйская газета «Нейшнл геральд» задавала ў тыя дні пытанне: чаму Захад на словах выступае за «асабістую адказнасць» кіраўнікоў урадаў за спыненне гонкі ўзбраенняў, а на справе праяўляе нежаданне сустрэцца і абмеркаваць гэтую праблему? Магчыма, у той час, сапраўды было нямала людзей, якія задумваліся над такім жа пытаннем: чаму?

Пасля 2 сакавіка такіх людзей стала значна менш. Пасля таго, як Кенедзі за 12 дзён да пачатку перагавораў у Жэневе аб'явіў аб правядзенні ў красавіку гэтага года новай серыі выпрабаванняў ядзернай зброі ў атмасферы, усё стала на свае месцы.

Апраўдалася тое, што прадказваў Савецкі ўрад. Слоўная мішура аб «зацікаўленасці» ў вырашэнні праблемы раззбраення аказалася на паверку дзіравай дымавой заслонай, якая ледзь прыкрывае імкненне яшчэ больш узмацніць гонку ўзбраенняў. Рэакцыя сусветнай грамадскасці была амаль аднадушнай — яна асудзіла атамную дыверсію кіруючых колаў ЗША. Чэхаславацкая газета «Глос працы» піша, што «аб'яўленая прэзідэнтам Кенедзі серыя ядзерных выбухаў у Ціхім акіяне мае трайную шкоду: атручвае атмасферу, падрывае работу Камітэта па раззбраенню ў Жэневе, пагражае пачаткам новай стадыі ў гонцы ўзбраенняў...»

Сапраўды, няўжо Вашынгтон усур'ёз лічыць, што музыка ядзерных выбухаў з'яўляецца лепшым акампанементам для перагавораў у Жэневе? Або што Савецкі Саюз будзе глядзець раўнадушна на ўзмоцненыя ваенныя падрыхтаванні ЗША? М. С. Хрушчоў у сваім пасланні Кенедзі ад 3 сакавіка даў на гэтыя пытанні вычарпальныя і пераканаўчыя адказы.

Насцярожваюць і іншыя факты. У друку з'явіліся паведамленні, што ў Жэневе ЗША будуць, як і раней, настойваць на стварэнні сістэмы кантролю і інспекцыі не над раззбраеннем, а над узбраеннямі. Зноў, такім чынам, робіцца спроба ўзаконіць шпіянаж, такі неабходны для генштабаў агрэсіўных блокаў. Урад Францыі адмовіўся накіраваць свайго прадстаўніка ў Жэневу, матывіруючы гэта тым, што перагаворы павінны адбывацца з удзелам толькі тых краін, якія маюць ядзерную зброю. Англійская газета «Дэйлі мірор» піша не без падставы, што гэтае рашэнне «немінуча прымусіць рускіх паставіцца яшчэ больш скептычна да намераў Захаду».

Сустрэча ў Жэневе пачынаецца тады, калі ўсё больш дае сябе адчуваць вясна — перыяд абнаўлення ўсяго жывога, росквіту новага жыцця. Няхай па раніцах моцныя яшчэ маразы, няхай неба яшчэ часта завалакаюць цяжкія хмары, але вясна ідзе, цёплыя праменні сонца прабіваюць дарогу да зямлі. Народы свету спадзяюцца, што вясна гэтага года стане вясной умацавання справы міру, аслаблення міжнароднай напружанасці. Савецкі Саюз, усе міралюбныя дзяржавы прыкладуць усе намаганні да таго, каб гэтыя надзеі спраўдзіліся.

**Г. НАВІЦКІ.**

Кенедзі: «...Раззбраенне патрабуе «вышэйшых намаганняў».

МЫ РОБІМ ВЕЛІЗАРНЫЯ НАМАГАННІ ДЛЯ СУСТРЭЧЫ Ў ВЯРХАХ

Вось яны — «вышэйшыя намаганні»..

Мал. М. ЖЫТНІЦКАГА.

# НЕ ПРЫВІТАЎСЯ...

Нядаўна па Мінскім гарадскім аддзеле народнай асветы пракацілася чутка: у дзіцячым садзе № 125 злавілі злодзея. У нашы дні гэта сенсацыя, хоць злодзеі поўнасцю яшчэ не перавяліся. Іх становіцца ўсё менш і менш. Калі выявіцца несумленны чалавек, які хоча пажывіцца за кошт свайго суседа ці таварыша, а бывае, што і за кошт дзяржавы, — аб ім гавораць з агідай, абурэннем, яго асуджае грамадскасць.

Аднойчы ў гарадскі аддзел народнай асветы прыйшлі дзве жанчыны. Яны паклалі на стол загадчыка аддзела пісьмо. У ім гаварылася, што ў дзіцячым садзе № 125 «дзеці не атрымліваюць устаноўленых норм харчавання, таму што частка найбольш каларыйных прадуктаў сістэматычна раскрадаецца кіруючымі работнікамі дзіцячага сада». Пад кіруючымі работнікамі меліся на ўвазе дырэктар А. Сірацінская і загадчыца гаспадаркі А. Рудзіцар. Але ж ці толькі яны крадуць! «Трэба адзначыць, што касір і бухгалтар дзіцячага сада таксама часта носяць розныя прадукты са склада». А таму аўтары пісьма настойліва прасілі «...склікаць агульны сход бацькоў, дзе многія бацькі дапоўняць матэрыял па гэтаму пытанню, і перадаць справу ў следчыя органы».

Пад пісьмом не значылася прозвішча аўтара. Затое быў вядомы яго хатні адрас. У пачатку пісьма гаварылася, што копіі яго пасланы ў гарком партыі і райвыканком. Што і казаць, атрымаўшы такі ліст, работнікі гарана адчулі сябе не зусім ёмка. Дзіцячы сад, які лічыцца адным з лепшых у горадзе, раптоўна ў іх вачах згубіў аўтарытэт.

На месца здарэння тэрмінова накіравалі інспектара. Яна пайшла па адрасу і апынулася ў кватэры грамадзянкі К. Асаёнак. Тая адразу паклікала сваю суседку грамадзянку М. Басякову, якая даволі блытана расказала гісторыю пра тое, што прыбіральшчыца В. Сырцова не раз адносіла кошык з прадуктамі кудысьці на вуліцу Даўгабродскую і перадавала іх нейкім жанчынам...

Вось гэта і ўсё. Факты, безумоўна, упартая рэч. Яны і перавярнулі ўсё спакойнае жыццё выхавацеляў сада. Чуткі папаўзлі па іншых дзіцячых садах.

Адныківалі галовамі і паціскалі плячыма, маўляў, не дагледзелі. Другія не хацелі слухаць: глупства ўсё гэта! А трэція паспрабавалі нават завесці справу. Аднойчы, калі А. Сірацінская выходзіла з дзіцячага сада і накіроўвалася дадому, яе спыніў работнік АБХС і папрасіў дазволу агледзець сумку. У сумцы аказалася адна бутэлька кефіру. Сірацінская разумела, што работнік міліцыі мае права ўрэшце-рэшт зрабіць такі агляд. Але ж цяпер ён быў выкліканы тым лістом, што даслалі ў аддзел асветы. Дамоў Сірацінская прыйшла ўсхваляваная, са слязьмі на вачах.

Але вернемся да М. Басяковай. У лісце яна запэўняла, што ў садзе працуюць злодзеі і несумленныя людзі, якіх трэба судзіць. Інспектару райана прыйшлося выклікаць прыбіральшчыцу В. Сырцову. Яна паціснула плячыма і рашуча адказала:

— Нічога я не ведаю. Ніякіх прадуктаў не насіла.

Работнікі раённага аддзела асветы вырашылі склікаць бацькоўскі камітэт, на які запрасілі Басякову. Стварылі камісію. Яна праверыла работу выхавацеляў сада, кухні і склада. Камісія не выявіла злоўжыванняў.

Па просьбе аўтараў пісьма склікалі і сход, на які з'явіліся ўсе бацькі. Выступаючых было многа. Свае думкі пра харчаванне ў садзе выказалі тт. Крывашэяў, Мнішка, Судзейка, Рудакоўская, Зайдман. Усе былі абураны: «Хто распаўсюджвае такія чуткі? Хто пісаў заяву?» Зала ўсхвалявана гудзела. І як не хацелася М. Басяковай, але прыйшлося ўстаць. Яна не глядзела ў твары бацькоў. Уся чырвоная, збянтэжаная, ціхім голасам растлумачвала:

— Сказала аўтарытэтна адна жанчына... мы вырашылі напісаць. Хай праверац...

І, уцягнуўшы галаву ў плечы, дадала:

— Нічога тут такога крыўднага няма... калі і праверац...

Мне давялося прысутнічаць на гэтым бацькоўскім сходзе. Я слухаў, з якой непадкупнай шчырасцю гаварылі прысутныя пра цудоўныя ўмовы, створаныя ў дзіцячым садзе, як з задавальненнем адзначалі добрае харчаванне, як сароміілі М. Басякову. Потым разышліся. Я быў упэўнены ў тым, што дома бацькі, у кругу сям'і, працягвалі размову пра сад. Працягваў яе ў думках і я. Ішоў не спяшаючыся, і ў вушах гучалі словы: «Нічога крыўднага няма...» Толькі чорствы чалавек з брыдкай, мяшчанскай душой не мог адчуць, якую балючую крыўду нанёс ён добрым і сумленным людзям. На думку Басяковай, нічога такога і няма ў тым, калі напішаш заяву ў гарком партыі, у райана, у міліцыю і абвінаваціш чалавека ў крадзяжы. Хай праверац. На тое, маўляў, і міліцыя існуе, каб лавіць злодзеяў. А калі бутэлька з кефірам, што знайшлі ў кошыку, аказалася не крадзенай, а купленай у магазіне, то і добра! Басякова лічыць, што ўрэшце-рэшт можна папрасіць прабачэння за такую крыўду.

Я зацікавіўся: а што ўсё-такі з'явілася прычынай напісання пісем у рад устаноў? Зноў прыйшоў у дзіцячы сад і гутару з дырэктарам, з загадчыцай гаспадаркі. Праз некаторы час трапляю ў кватэру К. Асаёнак.

Супраць сядзіць маленькая хударлявая жанчына. Яна доўга і нудна расказвае пра пісьмо і ўрэшце гаворыць, што напісала яго па просьбе М. Басяковай. Яна растлумачвае, што дзяцей у садзіку не мае, але лічыць патрэбным умяшацца, калі там крадуць.

— Чаму Басякова не падпісалася пад пісьмом? Чаму дала ваш хатні адрас? — пытаюся ў яе.

— Ёй неяк няёмка, у яе дзіця ходзіць у гэты сад. Але якая розніца...

— Так, — згаджаюся я. — Але што ж урэшце з'явілася прычынай пісьма?

— А вось што. Муж загадчыцы гаспадаркі Сямён Рудзіцар нідзе не працуе. Жывуць яны ў нашым доме. Аднойчы Басякова сустрэла Рудзіцара, калі той ішоў з сада з кошыкам. У кошыку былі прадукты. Сустрэўшы Басякову, Рудзіцар не прывітаўся, глядзеў кудысьці ў бок.

— Можа Рудзіцар не заўважыў Басякову?

— Э, кіньце! Крадзенае нёс, таму і не прывітаўся.

— Басякова бачыла, што было ў кошыку?

— Не, нешта было загорнутае ў паперу... — Асаёнак памаўчала і, цяжка ўздыхнуўшы, шкадуючы дадала: — Нам не варта было пісаць у райана. Трэба было адразу ў пракуратуру.

Я выйшаў ад Асаёнак з дрэнным настроем. Здавалася, дакрануўся да нечага агіднага, непрыемнага. Зноў прыгадаў радкі пісем, поўныя злосці, і біяграфію Рудзіцара, старога камуніста, палкоўніка ў адстаўцы. Ён атрымлівае пенсію. Яе хапае на сям'ю, якая складаецца з двух чалавек: яго і жонкі. Іншы раз, вяртаючыся дадому з пакункамі, Рудзіцар заходзіць у садзік і гаворыць Аляксандры Сяргееўне, што купіў у магазіне. Я ішоў і думаў: за крадзеж судзяць. За хуліганства — судзяць. Сведку за няправільныя паказанні ў судзе прыцягваюць да адказнасці. А за наўмысны падман? За плёткарства? Трэба судзіць. Калі не ў народным судзе, дык судом грамадскасці.

**К. ІЛЬІН.**

САКАВІК.

Фотаэцюд А. ДЗІТЛАВА.

# ДРУЖБА

У Браслаўскі раённы аддзел культуры прыйшло пісьмо з суседняга літоўскага горада Ігналіна. Літоўскія сябры паведамлялі, што ў іх праводзіцца свята мастацтва народаў СССР і яны запрашаюць браслаўцаў прыняць у ім удзел.

Раніцай з Браслава ў Літву адправіліся дзве машыны. Браслаўскую дэлегацыю ветліва сустрэлі жыхары Ігналіна.

Сюды прыбылі і латышскія госці. Канцэрт адкрылі самадзейныя артысты з Даўгаўпілса. І вось гучаць напеўныя латышскія песні.

З поспехам выступіў на свяце Браслаўскі калектыў самадзейнасці. Былі выкананы беларускія і польскія песні, танцы. У заключэнне артысты Браслаўскага народнага тэатра паказалі вадэвіль «Пад дзікай яблыняй».

Літоўскія сябры ў знак дружбы ўручылі браслаўцам памятны падарунак. Такія сустрэчы трох братніх народаў — беларусаў, латышоў, літоўцаў — адбываюцца даволі часта.

**І. АЛЕКСЯЁНАК.**

# ІХ НОРАВЫ, ІХ МАРАЛЬ

### Факты з зарубежных газет і часопісаў

□ □

**ІДЭАЛЬНАЯ ЦАРКВА**

Містэр Джонсан з горада Нью-Йорка заснаваў нядаўна новую рэлігію. Называецца яна «Ідэальная спірытуалістычная царква». Колькасць прыхільнікаў новай рэлігіі складае пакуль некалькі дзесяткаў веруючых. Сябе містэр Джонсан абвясціў біскупам. Працэдура богаслужэння значна адрозніваецца ад звычайных норм. Біскуп Джонсан у чырвоным кардынальскім адзенні кладзецца ў труну і адтуль чытае грамавым голасам пропаведзі. Веруючыя праходзяць гусіным крокам паўз труну і кідаюць туды грошы.

«Фольксштыме».

**ВЕРХ І НІЗ**

116734-ы наведвальнік «Музея сучаснага мастацтва», адкрытага каля паўгода назад у Нью-Йорку, выявіў, прывёўшы гэтым у жах дырэкцыю музея і шматлікіх мастацтвазнаўцаў, што адна з карцін славутага мастака-мадэрніста Генры Матыса вісела дагары нагамі. Служкам музея дадзена ўказанне выправіць памылку.

«Вохенпост».

**ЗАКОН ЁСЦЬ ЗАКОН**

Нягледзячы на пратэсты некаторых членаў парламента брытанскае казначэйства працягвае выплачваць грошы на ўтрыманне і рамонт так званага Філінгарнскага замка. Гісторыя гэтага «замка» такая. Яшчэ ў эпоху Карла II памылкова або наўмысна ў спіс каралеўскай маёмасці быў унесен неіснуючы Філінгарнскі замак. Быў прыняты закон аб штогадовым выдаткаванні сродкаў на ўтрыманне і рамонт гэтага замка. У наступныя стагоддзі каралеўская сям'я прадала некаторыя з сваіх уладанняў розным асобам. Быў прададзен і Філінгарнскі замак. Згодна закону новыя ўладальнікі атрымалі ўсе прывілеі, звязаныя з каралеўскай маёмасцю, у тым ліку дзяржаўную датацыю на ўтрыманне і рамонт будынка. І вось па сённяшні дзень цяперашнія ўладальнікі неіснуючага замка атрымліваюць грошы з дзяржаўнай казны.

«Юманітэ».

**КАСМІЧНЫЯ МАХЛЯРЫ**

Амерыканскія судовыя органы ўзбудзілі справу супраць махлярскай «Акцыянернай кампаніі касмічных палётаў». Выкарыстоўваючы цікавасць насельніцтва да касмічных палётаў, аферысты прадавалі акцыі на «будаўніцтва касмічных пасажырскіх караблёў». Агентам кампаніі ўдалося знайсці нямала пакупнікоў, якія паверылі ў высокія прыбыткі кампаніі.

«Морген».

**ЯЕ ЗЛАЧЫНСТВА**

Дванаццацігадовая негрыцянская школьніца Джэсі Дайвенс з горада Макомб арыштавана за незаконнае заняцце месца для белых у гарадскім аўтобусе. Курт Гернсі, спецыяльны суддзя па злачынствах няпоўналетніх, прыгаварыў дзяўчынку да зняволення ў папраўчую навучальную ўстанову пад строгі нагляд.

«Уоркер».

**САМЫ ДАРАГІ Ў СВЕЦЕ**

Пасля нядаўняга павышэння платы за навучанне Вестмінстэрскі каледж стаў самай дарагой навучальнай установай у свеце. Кошт навучання тут складае 498 фунтаў стэрлінгаў у год. Гэта нават больш, чым у Ітанскім каледжы, дзе навучанне каштуе 490 фунтаў стэрлінгаў і ў каледжы Марльбора, дзе за навучанне трэба плаціць 423 фунты стэрлінгаў у год.

«Ворлд ньюс».

**ПАДРЫЎНАЯ АПЕРЭТА**

Дырэкцыя нью-йоркскага метро дабілася ў цэнзурным камітэце забароны новай аперэты «Пераначаваць можна ў метро». Дырэкцыя метро кожную зіму без ніякага поспеху змагаецца з бяздомнымі, якія начуюць на вакзалах і ў вагонах метро. Новая аперэта, на думку дырэкцыі, толькі павялічыла б прыток начлежнікаў.

«Ліберасьён».

**СТРОГАЯ ЧАРГОВАСЦЬ**

«Спяшайцеся зрабіць вакцынацыю супраць эпідэміі поліяміэліту. Вакцынацыя праводзіцца ў наступных паліклініках у парадку строгай чарговасці. У першую чаргу прышчэпкі робяцца белым грамадзянам і прыраўненым да іх эмігрантам з Заходняй Еўропы і Паўночнай Амерыкі ва ўзросце ад трох месяцаў да 40 год. У другую чаргу вакцынацыя робіцца каляровым грамадзянам, выхадцам з краін Азіі і Паўднёвай Амерыкі ва ўзросце ад трох месяцаў да 30 год. У апошнюю чаргу вакцынацыю праходзяць чорнаскурыя туземцы ва ўзросце ад трох месяцаў да 9 год».

Такую аб'яву дала амерыканская газета «Дэйлі мейл».

«Дэйлі уоркер».

**ДЗІЦЯЧЫ БІЗНЕС**

Вядзецца следства па справе групы галівудскіх урачоў і адвакатаў, якія арганізавалі падпольную фірму па гандлю дзецьмі. Дзяўчаты, што прыязджаюць у Галівуд з мэтай зрабіць кар'еру кіназоркі, звычайна не спыняюцца ні перад чым, і Галівуд займае ў Амерыцы першае месца па колькасці незаконнанароджаных дзяцей. Не маючы сродкаў для існавання, будучыя мацеры прадаюць дзяцей да іх нараджэння, у лік аплаты бальнічных выдаткаў на роды. Урачы радзільных дамоў і адвакаты фірмы збываюць малых дзяцей багатым бяздзетным сем'ям, афармляючы продаж як усынаўленне. За кожнае дзіця фірма атрымлівае не менш двух з паловай тысяч долараў. Цэны асобных дзяцей, пра якіх вядома, што іх бацькамі з'яўляюцца славутыя кінаакцёры, дасягаюць 15 тысяч долараў.

«Морген».

**БРАТЫ ВА ХРЫСЦЕ**

Свяшчэннаслужыцелі рымска-каталіцкай і грэка-праваслаўнай царквы наладзілі нядаўна бойку за права стаяць першымі ў час богаслужэння ў Віфліемскай царкве Раждзяства, пабудаванай на месцы, дзе нібыта нарадзіўся Ісус Хрыстос. Віфліемская царква з'яўляецца сумеснай уласнасцю католікаў і праваслаўных, і на гэтай падставе пастаянна адбываюцца непаразуменні. У апошні раз сварка перайшла ў бойку з выкарыстаннем у якасці зброі крыжоў, дубінак і піўных бутэлек. Паліцыя ледзь навяла парадак.

«Скотсмэн».

# Падзеі, факты, навіны

□ Дзяржаўны рускі драматычны тэатр БССР імя М. Горкага паказаў прэм'еру па драме А. Астроўскага «Беспасажніца». (Рэжысёр В. Рэдліх, мастак А. Грыгар'янц).

У галоўных ролях выступілі артысты А. Абуховіч, А. Клімава, С. Бірукоў, І. Шаціла, Я. Палосін, С. Галуза і іншыя.

□ Гэтымі днямі ў цэху Мінскага завода запасных частак у час абедзеннага перапынку адбыўся канцэрт аркестра штаба Беларускай ваеннай акругі. Духавы аркестр на заводзе не ўпершыню.

У канцэрце прагучалі творы савецкіх кампазітараў, рускай і зарубежнай класікі, якія палюбіліся рабочым.

Бурнымі апладысментамі ўзнагародзілі слухачы салістаў В. Арлова, В. Сакалова, О. Сцяпанава, Г. Дыментава, Б. Макарава.

□ Калектывы мастацкай самадзейнасці Асінаўскага і Шапечынскага сельскіх клубаў Віцебскага раёна на працягу некалькіх год падтрымліваюць цесныя творчыя ўзаемасувязі. Яны не толькі абменьваюцца канцэртамі, але і аказваюць адзін аднаму дапамогу ў падрыхтоўцы, правядзенні, мастацкім афармленні канцэртаў. Так, напрыклад, загадчык Асінаўскага клуба У. Бельчыкаў дапамог Шапечынскаму драмкалектыву падрыхтаваць п'есу «Гром з яснага неба» А. Рылько.

Асінаўскі калектыў мастацкай самадзейнасці неаднаразова выступаў з канцэртамі перад хлебаробамі суседніх калгасаў.

Зараз самадзейныя калектывы рыхтуюць канцэртную праграму, прысвечаную 80-годдзю з дня нараджэння выдатных беларускіх паэтаў Я. Купалы і Я. Коласа. Асінаўскі драмкалектыў працуе над п'есай «Прымакі» Я. Купалы.

Галоўны рэдактар Н. Е. ПАШКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: З. І. АЗГУР, А. І. БУТАКОЎ, К. Л. ГУБАРЭВІЧ, В. Ул. ІВАШЫН, А. Н. МАРЦІНОВІЧ (адказны сакратар), П. Ф. ПРЫХОДЗЬКА, Р. К. САБАЛЕНКА (намеснік галоўнага рэдактара), М. Г. ТКАЧОЎ, І. З. ШАРАХОЎСКІ, І. Б. ШАЦІЛА, Р. Р. ШЫРМА.



«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—3-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 3-25-25, адказнага сакратара—3-25-25, аддзела літаратуры—3-20-54, аддзела мастацтва—3-24-62, аддзела культуры—3-22-04, выдавецтва—3-19-52, бухгалтэрыі—3-11-03.

«Літаратура і мастацтва» выходзіць два разы на тыдзень: у аўторак і пятніцу.

АТ 12805

Друкарня выдавецтва «Звязда».